

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 23 (562) 19 ЧЭРВЕНЯ 2002 г.**


## Свята паэзіі ў Ляўках



У Купалаўскім мемарыяльным запаведніку "Ляўкі", што ў Аршанскім раёне на Віцебшчыне прайшло свята паэзіі, прысвечанае 120-годдзю з дня народзінаў Янкі Купалы. У Ляўках з чэрвеня 1935 года па чэрвень 1941 жыў і працаваў паэт.

**На здымку:** маладыя каля помніка Янку Купалу ў Ляўках.

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

## Паэтаў друкуюць на грашах




Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарот памятныя манеты, прысвечаныя 120-годдзю з дня народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Манеты выпушчаны ў двух варыянтах: срэбная намінацыяй у 10 рублёў і медна-нікелевая намінацыяй у 1 рубель. Срэбныя манеты выпушчаны колькасцю 1000 штук і маюць дыяметр 33 мм, масу каштоўнага металу 15,53 гр. і 925-ю пробу сплаву.

На гэты час Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь выпусціў 29 найменняў памятных манет. Яны карыстаюцца попытам у нумізматаў, жыхароў краіны, іншаземцаў, якія набываюць іх для сваіх калекцый, а таксама для сувеніраў і падарункаў.

**На здымку:** манеты прысвечаныя Якубу Коласу (злева) і Янку Купалу (справа).

**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Кеўчан Сяргей, Менск - 1000
2. СШ № 2 г. Менск, пед. калект. - 18000
3. Вольга Ігнатава, г. Менск - 4000
4. Анатоль Касінец, г. Менск - 1000
5. Уладзімір Бірулін, г. Менск - 3000
6. Петруковіч Васіль, г. Менск - 7000
7. Шышканава Еўдакія, г. Нясвіж - 10000
8. Фурс Антон, г. Паставы - 5000
9. Талуць Станіслаў, г. Гомель - 3000
10. ТДА "Свідравіна" г. Горадня - 150000
11. Анатоль Скрэпка, г. Мазыр - 5000
12. Міхась Тычына, г. Слуцк - 3000
13. Горацкая раённая суполка - 21000
14. Суполка "Рэфармацыя" г. Менск - 20$
15. Шкірманкоў Фелікс г. Слаўгарад - 10000

# Пастаўлены помнік Мікалаю Улашчыку

У музеі выяўленчага мастацтва "Фонд Анатоля Белага" ў г. Старыя Дарогі пастаўлены новы помнік выдатнаму беларускаму гісторыку Міколу Улашчыку. Гэта другі помнік пастаўлены на працягу года і восьмы за час стварэння музея. Помнік ўяўляе сабой камень-волат з чырвонага фінскага граніту памерам 3х2х1,5 метры, на якім замацаваны бронзавы барэльеф гісторыка, яго факсімільны подпіс: "Мікола Улашчык" і шыльду з адмысловым тэкстам. Сам камень з'яўляецца памнікам прыроды і ўзяты пад ахову дзяржавы.

Помнік Міколу Улашчыку стоіць побач з помнікам Ларысы Геніюш, і гэта вельмі сімвалічна, бо гэта першыя на Беларусі помнікі паліткатаржанам. Лёс гэтых выбітных людзей у многім тоесны Абое сядзелі за Беларусь. Улашчык чатыры разы, Ларыса Геніюш адзін раз, але сем гадоў. Пасля лагераў яны падтрымлівалі паміж сабой цесныя сяброўскія сувязі, сустракаліся, пастаянна ліставаліся.

Гэтыя дзеячы з'яўляюцца сімвалам самаахвярнасці ў справе беззапаветнага служэння нашай Бацькаўшчыне, сімвалам цнатлівасці і маральнай чысціні. І не здарма на шыльдзе Міколы Улашчыка напісаны словы з яго любімага верша Ларысы Геніюш. "Як жыць – дык жыць для Беларусі. А без яе - зусім ня жыць". Лёс людзей увасобіўся ў лёсе іх помнікаў. Каля сямі гадоў помнік Ларысы Геніюш немагчыма паставіць на яе радзіме ў Зэльве. Улады адмаўляюць у такім праве беларусам ставіць помнікі сваім самым выбітным прадстаўнікам нацыі.

Тры гады праляжаў помнік Міколы Улашчыка ў Дзяржынскім райвыканкаме. Тры гады раздаваліся пастаянныя абяцанкі вырашыць праблему з устаноўкай помніка свайму знакамітаму земляку. Тым больш, што вялікіх сродкаў для ўстаноўкі помніка не патрабавалася, усё ўжо было прэзентавана клубам "Спадчына" і, нават, каб улагодзіць улады Дзяржынскага райвыканкаму, на шыльдзе зрабілі адпаведны надпіс, што помнік ставіцца ўладамі Дзяржынска – "ад удзячных землякоў".

Калі існуе таемнае распараджэнне - не ставіць помнікі рапрасаваным людзям, то ўлады, як у Зэльве так і ў Дзяржынску, павадзяць сабе адпаведным чынам - рапрасуюцца помнікі рапрасаваных. Гэта трэба ўсім нам зразумець, але не скарацца, бо ўсёдазволенасць і ўсяўладдзе ўладаў безнадзейна прайшлі. Ужо помнікі можна ставіць і без іх высокага дазволу. Прыкладаў шмат - цэрквы, касцёлы, установы, прыватныя сядзібы, як напрыклад, выяўленчы музей "Фонд Анатоля Белага". Не трэба з пагардай глядзець, што помнікі ставяцца на прыватных сядзібах, каля цэркваў; касцёлаў, на тэрыторыях іншых установ, не трэба да такіх помнікаў ставіцца, як да другарадных. Гэтым часта грашаць многія "апантаныя, вольныя, незалежныя, дэмакратычныя" журналісты. Трэба толькі радавацца і дзякаваць Богу, што такая магчымасць з'явілася. Трэба яе, як мага болей і лепей, выкарыстоўваць. Лёс ізноў звёў сумесна Міколу Улашчыка і Ларысу Геніюш - старых знаёмых і добрых сяброў, але звёў іх у метале на мілай іх сэрцу Бацькаўшчыне, няхай на Старадарожскай зямлі. Не будзем забываць, што, як Мікола Улашчык і Ларыса Геніюш належаць усёй Беларусі, так і Старыя Дарогі – неад'емная тэрыторыя нашай роднай краіны.

***Анатоль Белчырвонабелы.***



